www.nv-online.info

№ 13 (4060)

16 лютага 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

К СЛОВУ



## По старым тарифам

Минчане заплатят за услуги по капремонту, водоснабжению и водоотведению за январь по старым тарифам, сообщила заместитель генерального директора по экономике государственного объединения «Минское городское жилищное хозяйство» **Юлия Сагайдак.**

– *Решением Мингорисполкома с 28 января в столице установлены новые тарифы на некоторые виды жилищно-коммунальных услуг. В жировках будут указаны именно эти цифры. Вместе с тем с 1 по 27 января минчане заплатят за услуги по капремонту, водоотведению и водоснабжению по старым ценам, по новым – только за четыре последних дня января,* – сказала Юлия Сагайдак.

Новый тариф за водоснабжение в Минске установлен в размере 4765,9 руб. за 1 куб. метр, за водоотведение – 4148,8 руб. за куб. метр. Тариф на капитальный ремонт жилого дома составит 880 руб. за 1 кв. метр общей площади жилья.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Пад санкцыямі застаюцца толькі чатыры беларусы

Адменены візавыя санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, якіх Еўропа доўгі час лічыла вінаватымі ў парушэнні правоў чалавека ў нашай краіне.

Гістарычнае рашэнне, якога так даўно чакаў афіцыйны Мінск, адбылося ўчора. Санкцыі (праўда, з перапынкамі і са зменамі прозвішчаў у "чорных спісах") дзейнічалі з 2006 года.

Еўрапейскія палітыкі не ўтойваюць, што гэта аванс – рэакцыя на абяцанні палітычных рэформ, якія раздае афіцыйны Мінск. Да таго ж у апошнія месяцы беларускія ўлады не адзначыліся брутальнымі разгонамі, арыштамі, аблавамі і гэтак далей і таму падобнае, што таксама ацанілі ў Брусэлі.

Еўракамісар па палітыцы суседства **Ёханес Хан** заявіў: «У выпадку Беларусі мы заўважаем некаторы прагрэс у нашых адносінах, які, па-мойму, вельмі важны, бо для нас, еўрапейцаў, стабільнасць – ключавая мэта ў нашым суседстве. Мець добрыя адносіны з суседзямі – наш галоўны інтарэс. Як я мяркую, таксама ў інтарэсах Беларусі заняць, так бы мовіць, збалансаваную палітычную пазіцыю ў рэгіёне. Таму я высока ацэньваю гэтае развіццё сітуацыі».

Міністр замежных спраў Польшчы **Вітольд Вашчыкоўскі** не стаў утойваць, што крок Еўрасаюза лагічнага тлумачэння не мае. Але гэта… эксперымент.

«Гэта важны эксперымент, – заявіў Вітольд Вашчыкоўскі. – Як суседзі мы рады гэтаму, бо спадзяёмся, што гэта палепшыць нашы дачыненні». Дарэчы, у бліжэйшы час кіраўнік польскага МЗС павінен прыляцець з візітам у Мінск. Без адмашкі на палітычную адлігу такі візіт проста не мог бы адбыцца.

Цяпер пад санкцыямі застаюцца толькі чатыры беларусы. Гэта тыя, каго ЕС лічыць датычнымі да палітычных знікненняў некалькіх чалавек у нашай краіне: экс-міністр унутраных спраў **Уладзімір Навумаў**, экс-міністр унутраных спраў **Юрый Сівакоў**, былы кіраўнік Савета бяспекі, а цяпер – кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта **Віктар Шэйман**, а таксама былы камандзір брыгады спецназа Унутраных войскаў **Дзмітрый Паўлічэнка**.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ВІНШУЕМ!



## Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ: «Не злоўжываю, але чарку з паўторам перакуліць магу...»

*На мінулым тыдні сваё 75-годдзе адзначыў народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча Міхаіл Дрынеўскі. Віншаванняў было столькі, што святкавалі некалькі дзён. Дакладней, у дзень юбілею працавалі, а на наступны дзень – адзначалі.*

На святочны канцэрт у Белдзяржфілармонію, здаецца, прыйшоў увесь бамонд. Хтосьці сядзеў на прыстаўных крэслах, хтосьці – проста на прыступках. Людзей было столькі, што яшчэ трэба было прыкласці намаганні, каб стоячы назіраць за тым, што адбываецца на сцэне!

– *Мяне адміністратар фактычна паставіла перад фактам, што канцэрт адбудзецца ў дзень юбілею*, – расказаў Міхаіл Паўлавіч «Народнай Волі». – *Так што спачатку мы працавалі, а на другі дзень ужо гулялі. У прынцыпе, для мяне гэта ўжо стала традыцыяй – працаваць у дзень нараджэння або ў дзень, калі ўручаюць нейкую важную прэмію. Нават калі Дзяржпрэмію атрымлівалі, мы працавалі. Даўно, праўда, гэта было, у 1982 годзе. Дарэчы, прагулялі яе ўсю. Не адразу, вядома, а разы за тры* (смяецца).

Міхаіл Дрынеўскі кажа, што яшчэ да канца не адышоў ад святочнай мітусні.

– *Для мяне ўсё было вельмі хвалююча – і ў гэты вечар, і за некалькі тыдняў да яго,* – гаворыць Дрынеўскі. – *Клопатаў было шмат: хто будзе, як пасадзіць людзей, як праводзіць... Цяпер вось толькі адыходжу ад усяго гэтага...*

*Калі б кожны тыдзень такія юбілеі здараліся, то можна было б ужо і прывыкнуць, а так усё амаль як у сне... Столькі хвалебных эпітэтаў на мой адрас прагучала!.. Калі б жыццё падарыла мне яшчэ 75 гадоў, напэўна, я за гэтыя гады і не адпрацаваў бы ўсе гэтыя пахвалы...*

*І ад прэзідэнта было віншаванне, і Міхаіл Мясніковіч шмат добрых слоў сказаў. Ад калектываў шмат пажаданняў было. Дзякуй і хору – дзяўчаты мне праспявалі любоўную песню, я нават не ведаў, куды дзявацца і як падыграць ім! Шмат дэлегацый з усёй краіны прыехала, землякі мае з Жыткавіцкага раёна і з Лельчыцкага, адкуль я родам.*

Кідаць працу Міхаіл Дрынеўскі не збіраецца.

– *Яшчэ далёка не ўсё зроблена!* – рашуча кажа ён. – *Ёсць у мяне і праекты, і задумкі. Таму, пакуль здароўе дазваляе, буду працаваць!*

Наконт здароўя Дрынеўскі жартуе:

– *Ну, чарку магу выпіць. І з паўторам! Не злоўжываў ніколі, але калі з добрымі людзьмі ці для апетыту – чаму б і не? Напэўна, палеская загартоўка дае мне сілы і магчымасць жыць і тварыць...*

*Дарэчы, на наступны дзень пасля канцэрта мы з калектывам трошачкі пасядзелі ў сталоўцы Універсітэта культуры – дзякуй рэктару, што забяспечыў такую магчымасць. Як мне падалося, усе засталіся вельмі задаволеныя...*

**Марына КОКТЫШ.**

ПРОФІЛЬ

## Тры факты пра Міхаіла Дрынеўскага

***

У 13 гадоў Міхаіл Дрынеўскі ўжо кіраваў калгасным хорам у роднай вёсцы.

"Бацька не ўяўляў, што музыка можа стаць маім лёсам, – распавядаў Міхаіл Паўлавіч у адным з інтэрв'ю "Народнай Волі". – Казаў: ідзі куды хочаш, але музыка – гэта не прафесія. Казаў так: "Музыка патрэбна, калі я наемся, нап'юся, а ў мяне гэта рэдка бывае". Але я паступіў у музычнае вучылішча па класе баяна. Не было дзе жыць, інтэрната не давалі. Прыходзілася спаць пад ложкам у брата, які вучыўся ў фінансавым тэхнікуме. Ды і есці не было чаго, жыў на адной булцы ў дзень. Так доўга не працягнеш, так што прыйшлося ехаць дахаты. Зноў паступіў толькі ў 1959 годзе – у Гомельскае музычнае вучылішча на харавое аддзяленне. Дарэчы, у той жа год за брата Колю паехаў паступаць у Гродзенскі медыцынскі інстытут. Паступіў! Зараз мой брат – доктар медыцынскіх навук, прафесар".

***

Быў адным з тых, хто падпісаў ліст на імя А.Лукашэнкі наконт стану беларускай мовы: "Калі знікае мова, страчваюцца і духоўныя арыенціры, народ перараджаецца, краіна больш не адпавядае сваёй назве, гібее і гіне".

***

Дрынеўскі жанаты адным шлюбам, мае двух дзяцей.

"Жаніўся я яшчэ на трэцім курсе вучылішча, у 1962 годзе, – распавядаў Міхаіл Паўлавіч. – У мяне быў няпісаны закон: шлюбам бяруцца адзін раз".

РЭЦЭПТ

## Што знайшлі шкоднага ў імпартных вітамінах?

Незайздросны лёс напаткаў шэраг беларускіх і імпартных лекаў. Міністэрства аховы здароўя Беларусі прыняло рашэнне забараніць іх выкарыстанне. Аказваецца, пры правядзенні кантролю якасці ў Рэспубліканскай кантрольна-аналітычнай лабараторыі партыі некаторых лекавых сродкаў былі прызнаны няякаснымі.

Сярод іх – папулярныя нямецкія вітаміны "Супрадзін" і "Элевіт пранаталь", амерыканскі прэпарат "Кальцэмін адванс", чэшскі "Разукард" і іншыя. Што тычыцца айчынных лекаў, то, напрыклад, адразу тры прэпараты Нясвіжскага завода медпрэпаратаў адклікаюцца з абарачэння – раствор хларыду натрыю, раствор хларыду калію і глюкоза, якія, дарэчы, шырока выкарыстоўваюцца ў медыцыне. Прычына, якая ўказваецца, – «яны нечакана паказалі непажаданую рэакцыю пацыентаў".

Серыю вітамінаў "Элевіт пранаталь" №5472202 прыйшлося нават забіраць з аптэк.

– *Да нас звярнулася кліентка, якая паскардзілася, што ва ўпакоўцы ў вочку для таблеткі яна выявіла староннее ўключэнне*, – тлумачыць галоўны пазаштатны спецыяліст па кантролі якасці лекавых сродкаў Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь **Валянціна Цімошына.** – *Было прынята рашэнне ўсю партыю адазваць з аптэк. Астатнія серыі няякасных імпартных прэпаратаў да пакупнікоў не дайшлі, іх "спынілі" ў лабараторыі. Напрыклад, серыя "Супрадзіна" выклікала ў супрацоўнікаў лабараторыі засцярогу тым, што на таблетках выявіліся сколы, яны былі няроўна афарбаваныя. Тая ж прычына і ў выпадку з "Разукардам" – таблеткі з партыі, якая паступіла, мелі больш інтэнсіўны ружовы колер, чым пазначана ў апісанні лекавага сродку, і ўзнікла апасенне, што зблытана дазіроўка прэпарату. Таму гэтыя серыі прэпаратаў не былі дапушчаны да рэалізацыі, і зараз будзе праводзіцца расследаванне. Вытворца вызначыць прычыны неадпаведнасці дадзенай партыі лекаў нарматыўным дакументам, узгодненым пры рэгістрацыі. Ніхто ні ад чаго не застрахаваны. І збоі могуць здарацца нават у самых аўтарытэтных фармкампаній.*

Паводле слоў Валянціны Цімошынай, падобная сітуацыя – звычайная з'ява. "*Гэта руцінная работа*, – тлумачыць спецыяліст. – *Такія сітуацыі ўзнікаюць не толькі ў нашай краіне. Допуск да рэалізацыі, кантроль якасці паступаючых лекаў – усё гэта робіцца ў інтарэсах пакупніка, каб на прылаўкі аптэк, у бальніцы не трапіў няякасны альбо фальсіфікаваны тавар*".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ...

## Праз тры тыдні – 8 Сакавіка!

*Раім загадзя, да 25 лютага, вырашыць пытанне наконт падарунка любімым жанчынам – маці, жонцы, сястры, сяброўцы, калежанцы... Аформіце ім падпіску на "Народную Волю" – паверце, будуць рады і ўдзячны!*




| Індэкс | «Народная Воля» | Кошт падпіскі ў аддзяленнях РУП «Белпошта», руб. | |
|---|---|---|---|
| | | кошт на 1 месяц | кошт на 4 месяцы (сакавік–чэрвень) |
| 63222 | Для індывідуальных падпісчыкаў | 58.000 | 236.000 |
| 632222 | Для прадпрыемстваў, установ і арганізацый | 75.000 | 300.000 |

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

ПРАТЭСТ

## Акцыя з шаблонным піярам

*Учора на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску пратэставалі некалькі соцень прадпрымальнікаў.*

У гэты дзень правесці мітынг іпэшнікаў у сталічным Парку дружбы народаў збіралася РГА "Перспектыва", але напярэдадні вырашыла адмовіцца ад гэтага, бо спадзяецца, што перамовы з урадам могуць даць болей, чым вулічныя акцыі.

Тым не менш невялічкая купка прадпрымальнікаў усё ж такі вырашыла прыйсці на Кастрычніцкую плошчу, што насупраць Адміністрацыі прэзідэнта. Пры гэтым некаторыя іпэшнікі прыехалі з рэгіёнаў – Віцебска, Гомеля, Полацка, Баранавічаў…

Улады былі падрыхтаваны да акцыі, і псаваць сабе імідж у дзень, калі еўрачыноўнікі вырашалі "беларускае пытанне" па санкцыях, не збіраліся. Таму на плошчы міліцыі ў форме наогул не было бачна, а вось "людзі ў цывільным", як кажуць, ледзь не ў рот лезлі з відэакамерамі. У дварах і на вуліцах вакол плошчы таксама хапала сілавікоў "на ўсялякі выпадак".

Што датычыцца самога мерапрыемства, то яно было нешматлюдным. На плошчу прыйшлі ўсяго некалькі соцень чалавек. Назваць дакладную лічбу не ўяўлялася магчымым, бо многія сілавікі былі апрануты гэтак жа, як і пратэстуючыя. Да таго ж было некалькі дзясяткаў журналістаў.

"*Крыўдна, што мы здалёку прыехалі ў сталіцу, каб нашы праблемы пачулі, а мінскія калегі ў сваёй большасці нават не з'явіліся*, – скардзіліся віцебскія ІП. – *Відаць, іх усё задавальняе*".

Жадаючыя выступалі на прыступках Палаца Рэспублікі. Распавядалі пра тое, што, на іх погляд, так жыць і працаваць нельга, патрабавалі адмены Указа №222. Слова бралі і палітыкі, якія да патрабаванняў прадпрымальнікаў дадавалі і свае. На плошчу прыйшлі сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" Павел Севярынец, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, экс-кандыдаты ў прэзідэнты Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч.

«*Хопіць стаяць на каленях, уздымайцеся!*» – заклікаў Лябедзька.

"*Трэба дабівацца, каб уладу вярнулі народу*", – дадаў Статкевіч.

"*Пакуль мы тут мітынгуем – кіраўніцтва Еўрасаюза здымае санкцыі ў адносінах да беларускага рэжыму… Беларускі рэжым здымае скуру з народа, а Еўрасаюз здымае санкцыі з улад*", – пафасна прамовіў Някляеў і прапанаваў прадпрымальнікам накіраваць у Брусель зварот, у якім тыя выказалі б пратэст на дзеянні еўрачыноўнікаў.



Словы У.Някляева засталіся словамі. Ніхто ніякага звароту не прымаў і ў Брусель не накіроўваў. Падобна на тое, што шаблонны піяр палітыкаў праваліўся. Як і ў цэлым акцыя.

У выніку паўтарагадзінны стыхійны мітынг закончыўся рашэннем сабрацца на тым жа месцы роўна праз тыдзень. Але пры адной умове: калі да таго часу ўлады не вырашаць праблемы ІП…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЫМ ЧАСАМ

У Гродне 15 лютага таксама прайшла акцыя пратэсту ІП супраць Указа №222 (аб сертыфікацыі тавараў). На мітынг сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Да пратэстоўцаў выйшаў старшыня гарвыканкама Мечыслаў Гой.

Апошні адзначыў, што натоўпам праблемы вырашаць нельга, і прапанаваў прыходзіць індывідуальна. Прадпрымальнікі ісці на перамовы ў гарвыканкам адмовіліся, паведамляе "Твой стыль".

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Адкуль у беларусаў грошы на валюту?

Статыстыка Нацбанка сведчыць, што ў студзені, калі рубель к асноўным валютам валіўся амаль што кожны дзень, беларусы працягвалі скупляць долары. За месяц насельніцтва прадало наяўнай і безнаяўнай валюты 440,71 млн долараў, а набыло – 630,12 млн "зялёных". Такім чынам, чыстая купля валюты фізічнымі асобамі ў студзені склала 189 млн долараў.

Старшы аналітык кампаніі "Альпары" **Вадзім Іосуб** патлумачыў, адкуль беларусы бяруць грошы на валюту ў той час, калі заробкі не растуць.

"*У нашым выпадку размова ідзе пра рэкамендацыі Нацбанка восенню мінулага года знізіць працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах да ўзроўню не вышэй за 30 працэнтаў*, – адзначае аналітык. – *У выніку ў апошнія 2–3 месяцы насельніцтва актыўна здымае грошы з рублёвых дэпазітаў і пераводзіць іх у валюту*".

Паводле слоў эксперта, гэтая тэндэнцыя працягнецца яшчэ некалькі месяцаў. "*Да таго часу, пакуль на рублёвых дэпазітах не застануцца самыя адданыя ўкладчыкі, якія з нейкіх сваіх меркаванняў не захочуць набываць валюту*", – кажа **Вадзім Іосуб**.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

